Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

23 - 29 мая 1997 года

# Рэгіянальная газета

ЦАНА 2000 РУБ. ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

№21 (109)

## Падзея тыдня.




Адкрыццё выставачнай залы ў Вілейцы.

2-я старонка.

**Непажаданае дзіцё**

## Ці будзе знойдзены забойца?

*МАЛАДЗЕЧНА. Усяго пару дзён пажыла на свеце сямімесячная дзяўчынка. Урачы зрабілі ўсё, каб яе выратаваць, а родная маці ўсё, каб яе забіць.*

У раёне завода парашковай металургіі дванаццацігадовы хлопчык пачуў мяўканне. Палез на сметнік за кацянём. А знайшоў немаўля. Дзяўчынка важыла кілаграм сто грамаў. Знешне без усялякіх фізічных недахопаў. Арганізм быў перааханоджаны. Заведзена крымінальная справа.

На жаль, гэты выпадак не адзіны. У "РГ" №16 за 18-24 красавіка змешчаны матэрыял пад назвай "Непажаданае дзіцё: яго месца на сметніку?". Нагадаю, тады жанчына нарадзіла мёртвае дзіця і кінула на сметнік. Адтуль яго сцягнулі сабакі, разгрызлі і часткі цела цягалі па вёсцы. У той раз крымінальная справа не заводзілася.



Забіць, адмовіцца, выкінуць сваё дзіцё— смяротны грэх. Але людзі павінны ведаць, што акрамя вышэйшага суда ёсць суд наш, зямны, дзяржаўны.

А таксама тэрміны пазбаўлення волі за гэты і ім падобныя ўчынкі.

*Васіль САВІЦКІ.*




## Чакаеш доўга аўтобус? Не сумуй. Прачытай – і парадак

*МАЛАДЗЕЧНА. На некаторых аўтобусных прыпынках "выраслі" інфармацыйныя тумбы. Медыкі, улады вырашылі даць жыхарам інфармацыю аб СНІДзе ў адкрытым выглядзе. Плануецца паставіць падобныя тумбы на чыгуначным вакзале, ля гарадскога стадыёна.*

Статыстыка па Беларусі:
на 1.07.96— 130 ВІЧ інфіцыраваных,
на 1.04.97— 1391.

Інфармацыя па прафілактыцы СНІДу вывешваецца ў вітрынах магазінаў ("Елгава", "Юбілейны"). У друкарні аддрукаваныя антысніда́ўскія плакаты. Акрамя гэтага ў горадзе ажыццяўляюцца праграмы, распрацаваныя рэспубліканскім цэнтрам прафілактыкі СНІДу.

*Аддзел інфармацыі, фота Вячаслава ТАМАШЭВІЧА.*

**Смаката**

## Булёны з пяском

*АСТРАВЕЦ. Каторы тыдзень жыхары пасёлка вымушаны карыстацца вадой з пяском.*

Прынамсі, у дом №39 "А", што на вуліцы Валадарскага, пясок прыходзіць у госці з гарачай вадой. Калі хтосьці вырашыць памыцца, то пасля працэдуры ён нікольні не будзе адрозніваццa ад таго суседа, што гадамі не бывае ў ванне.

У іншых жа кватэрах пясок можна ўбачыць з халоднай вадой, з якой гаспадыням прыходзіцца гатаваць для хатніх булёны. Відавочна, што на смак яны някепскія, бо ніхто, як прынята гаварыць, яшчэ ногі "не працягнуў".

У аб'яднанні жыллёва-камунальнай гаспадаркі на гэты конт разводзяць рукамі і шукаюць прычыну.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*



## Сустрэча з юнымі

карэспандэнтамі пройдзе 26 мая (у панядзелак) а 16 гадзіне ў рэдакцыі "РГ". Запрашаюцца ўсе жадаючыя. Даведкі па тэл. 69667.



## Лідэр дзіцячай арганізацыі-97

*МАЛАДЗЕЧНА. Трэці конкурс кіраўнікоў дзіцячых арганізацый і аб'яднанняў традыцыйна сабраў сімпатычных і таленавітых дзяўчат і хлопцаў, якія свае веды, талент, час, душу аддаюць дзецям.*

У Мінскай вобласці разнастайныя дзіцячыя арганізацыі і аб'яднанні даволі актыўныя. Упраўленне адукацыі Мінаблвыканкома тры гады таму падтрымала ініцыятыву абласнога цэнтра дзіцячай творчасці праводзіць конкурсы важацкага майстэрства: менавіта ў Маладзечне знаходзіцца гэты цэнтр, які, у асноўным, рыхтуе і праводзіць конкурс.

Красавік найбольш імпануе моладзі, актыўнасці, прыгажосці. І на гэты раз удзельнікі з 23 раёнаў Міншчыны мелі разнастайную праграму. У першы дзень праводзіліся конкурсы "Запрашэнне на падарожжа", "Інтэлектуальнае лета" і турыстычная эстафета. Адзначу калектыў маладзечанскай беларускай гімназіі. Яны не толькі прадставілі памяшканне - цудоўную актавую залу, але дапамагалі і ў музычным афармленні.

І, магчыма, святочнасць конкурсу дапамагло тэатралізаванае прадстаўленне "Вітаем гасцей", якое падрыхтавала кіраўнік тэатра-студыі Т. Мурычына з выхавацелямі. Ім, дарэчы, і пачалася праграма "кіраўнічых спаборніцтваў".

Першае месца на конкурсе прысуджана В. Шляхтуновай— кіраўніку атрада гайдаў з Жодзіна. Другое месца— В. Чурсіной— лідэру піянерскай арганізацыі з Салігорска. Трэцяе месца— Ж. Салаўёвай, лідэру дзіцячай арганізацыі "Экалагічны бумеранг з Нарачы".

*Жанна АНГЕРЧЫК, загадчыца аддзела мінскага абласнога ЦДзТ.*



**Навіны**

## Тэлерадыйны дэсант

*МАЛАДЗЕЧАНСКІ Р-Н. На мінулым тыдні "дэсант" у складзе супрацоўнік Белтэлерадыёкампаніі - вядомых журналістаў, дыктараў і артыстаў - высадзіўся ў Лебедзеве.*

Імпрэза арыгінальнасцю не вызначалася: знаёмства, пытанні-адказы, пажаданні, канцэрт. Але водгукі аб рабоце ведамства Рыгора Кісяля не зводзіліся да дыфірамбаў. Дзяржаўныя электронныя СМІ сёння не задавальняюць многіх з-за сваёй аднабаковасці, адсутнасці на экране і ў эфіры розных, у тым ліку супрацьлеглых афіцыйнай лініі, пунктаў погляду. Асабліва дасталося "на арэхі" вядучаму "Рэзананса" Аляксандру Зімоўскаму і супрацоўніцы АТН тэлежурналістцы Інзе Хрушчовай.

З болем гаварылі ў зале лебедзеўскага дома культуры пра занядбаны стан беларускай мовы на беларускім жа радыё і тэлебачанні. Застаецца спадзявацца, што сталічныя журналісты данясуць меркаванні гледачоў і слухачоў да кіраўнікоў Белтэлерадыёкампаніі без купюраў, а тыя зробяць высновы. А то наступным разам ніякая "Бяседа" (адзін з лепшых творчых калектываў кампаніі, які таксама прыняў удзел у сустрэчы) не здолее сваім выступленнем дадаць фарбаў на шэрым экране БТ.

*Аддзел інфармацыі.*

## Інтэлектуалы

*АСТРАВЕЦ. Нядаўна тут створаны Клуб інтэлектуальных гульняў. Арганізатарам выступіў Васіль Мікліс. І цяпер кожныя панядзелак і пятніцу ў памяшканні СШ №2 збіраюцца інтэлектуалы, дзе, падзяліўшыся на каманды, праводзяць трэніроўкі, адказваюць на пытанні, спрачаюцца.*

Збіраюцца пакуль 15 чалавек (пераважна вучні другой школы), але прымаюць усіх— незалежна ад узросту і нацыянальнасці па пашпарту. Ёсць і задумкі, а супер-задумка— гэта ўступіць у рэспубліканскую інтэлектуальную лігу, што дасць магчымасць паказаць сябе на ўсю краіну. Ды і на іншых паглядзець таксама.

*Янук СІВАКОЎ.*

## Трапілі ў дзесятку!

*ВІЛЕЙКА. Дзесятае дзіця нарадзілася ў сям'і Ірыны і Рыгора Чарткоў, якія жывуць у вёсцы Журыхі.*

Урачыстая рэгістрацыя нованароджанага адбылася ў пачатковай школе, дзе вучацца трое малодшых дзяцей Чарткоў. Першы грамадзянскі дакумент бацькам Яўгенія, восьмага сына ў сям'і, уручыла старшыня Любанскага сельвыканкома Вера Клімовіч.

У Журыхах Чарткоў ведаюць як сапраўды дружную, добразычлівую сям'ю. Таму і віншавалі бацькоў з радаснай падзеяй не толькі тыя, каму гэта трэба рабіць па абавязку, але і сябры, суседзі, аднавяскоўцы.

*Міхаіл ПАТАПОВІЧ.*

## Як мне пераехаць без каня раку?

*МЯДЗЕЛ. На дзіцячай турбазе прайшоў абласны семінар работнікаў раённых аддзелаў народнай адукацыі, якія адказваюць за фізічнае выхаванне дзяцей.*

Акрамя размовы вакол надзённых праблем, удзельнікі семінара наведалі рэспубліканскі рэльефна-ландшафтны заказнік "Блакітныя азёры". Экскурсію праводзіў кіраўнік літаратурна-краязнаўчага гуртка "Валошка" Куцькаўскай школы Іван Драўніцкі. Практычныя заняткі па тэхніцы пешаходнага турызму прадугледжвалі паход на возера Балдук (пятае ў Беларусі па глыбіні) і пераправу праз раку.

*Яніна БУГЛАК.*

## Першы майстар

*АСТРАВЕЦ. Баксёрскі турнір з удзелам прадстаўнікоў скуранай пальчаткі з Расіі, Малдовы і Беларусі стаў шчаслівым для Андрэя Зарэцкага. Прымаў спартсменаў Гомель.*

Баксёр, які цяпер з'яўляецца выхаванцам Гродзенскага вучылішча алімпійскага рэзерву, правёў у сваёй вагавай катэгорыі чатыры нялёгкія баі і ў кожным святкаваў перамогу над сапернікамі.

Андрэй выканаў нарматывы майстра спорту і стаў першым уладальнікам такога тытула ў раёне. Трэба спадзявацца, "ластаўка" не апошняя.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## Крымінал, здарэнні

### Двайное забойства

*АШМЯНЫ. У адной з вёсак Гальшанскага сельсавета два калгаснікі скралі 4 мяхі камбікорму на ферме і прадалі іх свайму суседу.*

Праз некаторы час той уцяміў, адкуль багацце і прад'явіў ультыматум: вярніце назад грошы. І бутэльку зверху. А калі мірным шляхам дыялог не быў вырашаны, у ход пайшоў армейскі штых.

У выніку калгаснікі адышлі на той свет, а сусед знайшоў прыстанішча ў следчым ізалятары.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

### Помста

*АШМЯНЫ. Не змагла дараваць жыхарка раёна Ш. былому мужу тое, што ён пайшоў пасля разводу жыць да іншай.*

Ранкам яна ўварвалася ў дом з сякерай у руках і разлічылася з ім адным ударам.

*Аддзел інфармацыі.*

## Канікулы!

# І баба Ганна пісала “ліпу”

*МАЛАДЗЕЧНА. Настаўнікі і вучні падлічваюць гадзіны да заканчэння навучальнага года. Вось-вось у школьных калідорах прагучыць доўгачаканае слова "свабода". Апошнія дні школы жылі выніковымі залікамі і кантрольнымі. Таццяна Ратнікава і Ала Пеля вучацца разам, у 12 "В" класе. У іх кантрольных дыктоўках па рускай мове я доўга вышукваў памылкі. "Ліпу" (назва тэксту) яны напісалі на "выдатна". Пасля гэта пацвердзіў і настаўнік-прадметнік, зламаўшы мой стэрэатыпны погляд на вячэрнюю школу і яе вучняў.*

Гадоў з 30 таму ў горадзе былі тры вячэрнія школы і адна завочная. І, як у кіно, за парты пасля работы садзіліся 30-40-гадовыя. Педагогі памятаюць самую "пажылую" навучэнку. Цётка Ганна прыйшла ў школу гадоў за пяць да пенсіі.

Сёння па вобласці засталося 17 "вячорак". Значна памаладзелі іх наведвальнікі. У Маладзечне з 200 вучняў самаму старэйшаму ўсяго 29. Ды і сама назва "вячэрняя" не зусім адпавядае сутнасці. Толькі адзін клас з васьмі займаецца ўвечары. Беспрацоўе адбілася на раскладзе заняткаў. Пабываў на ўроках і канстатую: устанoва мала чым адрозніваецца ад звычайнай сярэдняй. Тая ж праграма, амаль аднолькавыя па ўзросце вучні.

Аляксей Валяр'янаў скончыў 9 класаў у СШ №4. Спрабаваў пайсці ў ПТВ, але не прайшоў медкамісію. Вяртацца не захацеў. Амаль такая ж гісторыя ў яго цяперашняй аднакласніцы Юліі Курылы. Падлеткі захапляюцца гісторыяй, хочуць паступіць у ВНУ. Гэта рэальна. Дзесяткі выпускнікоў (калі не сотні) пасля вячэрняй школы атрымалі вышэйшую адукацыю.




Але ўсё ж адно адрозненне (на карысць "вячоркі") я знайшоў: тут займаюцца добраахвотна. Людзі дарослыя, некаторыя сямейныя, фінансава самастойныя. Іх не гоняць у школу бацькі.

Дырэктар вячэрняй (зменнай) агульнаадукацыйнай школы Аляксандр Сушко на пасадзе чвэрць стагоддзя. Марыць праз пару гадоў стварыць політэхнічную школу. Каб выпускнікі разам з атэстатамі атрымлівалі рабочыя спецыяльнасці. Фундамент закладзены— першы год дзесяцікласнікі займаюцца прафесійнай падрыхтоўкай. Дзяўчынкі вучацца на швачку, сакратара-машыністку. Хлопцы на слесара-рамонтніка. Перспектыўны план школы толькі напачатку можа падацца невыканальным: набыць 20 электрычных пішучых машынак, 15 электрычных швейных, значна пашырыць станочны парк. Але, лічу, такі апантаны чалавек, вопытны педагог і адміністратар (40 гадоў у адукацыі), як Аляксандр Канстанцінавіч, зможа ўсё.

Разам з ім мы пабывалі на выхаваўчай гадзіне (вучыліся правільна сервіраваць стол). А потым я прымяраў летнія жоўтыя кепкі, што шыюць самі вучні, круціў у руках вырабленыя ў майстэрні драўляныя сувенірныя кубкі (з такіх бы піва піць). Размову ў дырэктарскім кабінеце спыніла чарнявая дзяўчына— прынесла дырэктару кавалак пірага.

— Замуж выходжу,— сціпла паведаміла.

У "вячоркі" сваё спецыфічнае жыццё.

*Васіль САВІЦКІ.*



## Астравецкія канцэрты

### І міліцыя спявае

*Канцэртам адзначыла свой 30-гадовы юбілей дзіцячая музычная школа. З нумарамі выступілі як цяперашнія навучэнцы, так і былыя выпускнікі.*

У мінулую нядзелю ў РДК таксама адбыўся дабрачынны канцэрт - мясцовага кампазітара Аляксандра Альховіка. Гучалі яго песні ў выкананні супрацоўнікаў міліцыі, іншых спевакоў, а сам "вінаваты" зачараваў прысутных ігрой на саксафоне. Завяршыўся "сэйшн" у рэстаране "Беларусь".

*Аддзел інфармацыі.*

## Жыве Беларусь!

# Зала імя Нікадзіма Сілівановіча, нарэшце, зноў знайшла сабе месца

*ВІЛЕЙКА. У мінулую нядзелю ў горадзе адчыніла свае дзверы выставачная зала Вілейскага гісторыка-краязнаўчага музея. Яна носіць імя Нікадзіма Юр'евіча Сілівановіча, вядомага беларускага жывапісца канца XIX-пачатку XX стагоддзя.*



Менавіта Нікадзімам Сілівановічам, ураджэнцам вёскі Цынцавічы, што на Вілейшчыне, быў аздоблены мазаічнымі абразамі пецярбуржскі Ісакій. Музеі за мяжой лічаць за гонар мець жывапісныя работы нашага земляка.

Упершыню ж выставачная зала (Дом мастацтваў) імя Сілівановіча з'явілася ў Вілейцы каля дзесяці год таму, калі будынак былога касцёла быў вызвалены з-пад склада і перададзены аддзелу культуры гарвыканкома. Затым храм вярнулі таму, каму належаў па праву. Вілейка, на жаль, засталася без магчымасці наладжваць добрыя выстаўкі. І вось, калі ў дзесяты раз адзначаўся Міжнародны дзень музеяў, выставачная зала знайшла сваё прыстанішча ў старой частцы Вілейкі на плошчы Свабоды.

Да адкрыцця залы спрычыніліся многія арганізацыі і прадпрыемствы з горада і раёна, дапамаглі гарадскія і раённыя ўлады, але асноўны цяжар, зразумела, лёг на плечы музейных работнікаў, дырэктара музея Яўгена Ігнатовіча. Першай стала тут персанальная выстаўка мастака Эдуарда Мацюшонка, творчасць якога добра ведаюць вілейчане. А для Эдуарда гэта трэцяя персанальная выстаўка - дзве папярэднія праводзіліся ў гарадскім Доме культуры. Наогул, праблемаў з тым, якія экспазіцыі тут наладжваць, ніколі не ўзнікне. Падчас адкрыцця залы некаторыя з гасцей-мастакоў з Мінска адразу заявілі пра жаданне выставіць свае работы ў правінцыі. Ды, аказваецца, і свае арганізавалі тут ледзь не чаргу.

Культура рэспублікі ў заняпадзе. У Вілейцы ж адчыняе свае дзверы выставачная зала, дзейнічае школа мастацтваў з некалькімі аддзяленнямі і выдатнымі традыцыямі; духавы аркестр пад кіраўніцтвам Фёдара Гура і дзіцячы калектыў "Экспромт" становяцца лаўрэатамі прэстыжных конкурсаў, студыя песні Валерыя Скаражонка не толькі арганізуе канцэрты, але і дае маладым выканаўцам знайсці сябе і заявіць пра сябе, фальклорныя калектывы "Забава" і іншыя становяцца вядомымі не толькі дома, адраджаюцца аўтэнтычныя народныя рамёствы. Жыве Беларусь!

*Мікола ГАЙДУК.*







*На здымках: Н. Сілівановіч, аўтапартрэт; Эдуард Мацюшонак; адкрыццю залы надвор'е спрыяла. Фота з архіва рэдакцыі і Сяргея ГЛОБЫ.*

